*Книга, содержащая метрические записи Новогрудского мусульманского прихода за конец XVIII – начало XIX в., является старейшим источником такого рода. Она хранится в фонде «Новогрудский земельный суд» в Национальном историческом архиве Беларуси. Эта книга содержит не только генеалогические записи, но и важную информацию о религиозной практике мусульман и повседневной жизни имама.*

*The book, containing metric records of the Novogrudok Muslim parish for the late 18th – early 19th centuries, is the oldest source of such kind. It is kept as part of the «Novogrudok Land Court» fund in the National Historical Archives of Belarus. This book contains not only genealogical records, but also important information about the religious practice of Muslims and the daily life of the Imam.*

***Жук Т.І.** (Мінск)*

## ДА ГІСТОРЫІ ІСНАВАННЯ ВІЛЕНСКАГА БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ ІМЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА (ПА МАТЭРЫЯЛАХ ФОНДУ АДДЗЕЛА РЭДКІХ КНІГ І РУКАПІСАЎ ЦЭНТРАЛЬНАЙ НАВУКОВАЙ БІБЛІЯТЭКІ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ)

З пачатку 1920-х гг. Вільня стала цэнтрам беларускага нацыянальна-культурнага руху. Тут актывізавалась культурна-асветніцкая дзейнасць розных беларускіх аб'яднанняў, навуковых таварыстваў, грамадскіх арганізацый, што, у сваю чаргу, спрыяла абуджэнню ў насельніцтва нацыянальнай самасвядомасці.

Адным з пачынальнікаў і лідарам беларускага нацыянальнага адраджэння быў беларускі грамадска-палітычны дзеяч, празаік, публіцыст, археолаг, краязнаўца Іван Луцкевіч (1881–1919) [7]. Ён належаў да ініцыятараў стварэння падпольнай беларускай палітычнай партыі Беларуская сацыялістычная грамада і Беларускага навуковага таварыства (далей БНТ), якое мела права ствараць і ўтрымліваць за свой кошт музеі, бібліятэкі, навуковыя ўстановы, праводзіць выстаўкі, экскурсіі, лекцыі, навуковыя з'езды, займацца выдавецкай дзейнасцю. Па ініцыятыве І. Луцкевіча былі заснаваны беларускія газеты «Наша доля» і «Наша ніва», кнігавыдавецкае таварыства «Наша хата», адкрыта першая беларуская гімназія ў Вільне. Будучы не толькі вядомым грамадска-палітычным дзеячам, але і вучоным-археолагам, які атрымаў акадэмічную адукацыю ў Пецярбургскім універсітэце і Археалагічным інстытуце, І. Луцкевіч усё жыццё збіраў кніжныя помнікі, прадметы мастацтва – усё тое, што тычылася багатай спадчыны беларускага народа ў галіне археалогіі, этнаграфіі, гісторыі, навукі і культуры. «Ів. Луцкевіч, творачы сваю калекцыю, меў на мэце сабраць матэрыялы, якія далі-б магчымасць вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа, беларускага мастацтва – галоўным чынам народнага, беларускай гісторыі – перад усім з часоў Вялікага Княства Літоўскага» [5, с. [3]]. За год да смерці

І. Луцкевіч перадаў свае найбагацейшыя калекцыі Беларускаму навуковаму таварыству як аснову для беларускага нацыянальнага музея. Ідэя заснавання якога «...належыць да пачатку XX стагоддзя, калі асабліва ўзмацнеў беларускі нацыянальна-рэвалюцыйны рух з аднаго боку і русіфікацыйная і паланізацыйная праца паноў і царскіх чыноўнікаў – з другога» [4, с. 21].

У 1921 г. у Вільні ў Базыльянскіх мурах з дазволу праваслаўнай кансісторыі, якая на той час валодала ўсімі будынкамі манастыра, у невялікім па плошчы памяшканні пачаў сваю дзейнасць славуты Беларускі музей, заснаваны на ўнікальнай прыватнай калекцыі Івана Луцкевіча. Для ўшанавання яго памяці музею было нададзена імя І. Луцкевіча. Першым дырэктарам музея стаў брат Івана, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, крытык, літаратуразнавец, лінгвіст, гісторык Антон Луцкевіч (1884–1946?). У 1939 г. ён быў арыштаваны па абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці і асуджаны на 6 гадоў зняволення, падчас якога памёр.

Некаторы час музей заставаўся без кіраўніцтва і толькі ў ліпені 1941 г. яго дырэктарам быў прызначаны беларускі грамадска-культурный дзеяч, выдавец, літаратуразнавец Янка (Іван Іосіфавіч) Шутовіч (1904–1973), які на той час сумяшчаў пасаду выкладчыка ў Беларускай настаўніцкай семінарыі з працай навуковага супрацоўніка музея і які змяніў на гэтай пасадзе Мар'яна Пецюкевіча (1904–1983). У штаце музея было чатыры супрацоўнікі, вялася праца па ўпарадкаванні экспанатаў, вядзенні інвентарных кніг, складанні каталогаў і інш. Вядомы беларускі мастак Пётра Сергіевіч (1900–1984) успамінаў, што, працуючы ў музеі з лістапада 1939 па чэрвень 1941 г., прымаў на дэпазытарнае захаванне прыватную бібліятэку ксёндза В. Гадлеўскага (1888–1942?) [18, с. 447–448], афармляў атрыманую ў дар бібліятэку архітэктара Л. Дубейкаўскага (1869, па іншых звестках 1867–1940) [1, с. 14–15], вёў інвентарную кнігу [16, л. 1]. Прыцягваліся да працы ў музеі і пазаштатныя супрацоўнікі, у асноўным для апісання як новых экспанатаў, так і тых, што ўжо былі атрыманы з калекцый І. Луцкевіча. Падчас фашысцкай акупацыі музей быў выселены з Базыльянскіх муроў, дзе знаходзіўся з моманту свайго заснавання. Напрыканцы вайны стала вядома, што фондам музея пагражае адпраўка ў Германію. Я. Шутовіч разам з супрацоўнікамі і з дапамогай неабыякавых да лёсу Беларускага музея людзей здолеў найбольш каштоўныя экспанаты захаваць у склепе касцёла Святога Міхала, адміністратарам якога ў той час быў вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння ксёндз Адам Станкевіч (1892–1949). Такім чынам амаль цалкам былі захаваны фонды музея. Але ўжо ў лістападзе 1944 г. у Літве была створана ліквідацыйная камісія для адбору і перадачы часткі калекцыі музея Беларускай ССР. Пазней у склад камісіі ўвайшлі і прадстаўнікі ўрадавай дэлегацыі з Мінска. Найкаштоўнейшыя экспанаты былі падзелены паміж архівамі, музеямі і бібліятэкамі Літвы і Беларусі. У 1945 г. камісія скончыла сваю працу, якая доўжылася больш за паўгода і вынікам якой стала канчатковая ліквідацыя музея [8, л. 81–84].

У 1974 г. у рукапісны фонд аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ЦНБ НАН Беларусі) паступіў на дзяржаўнае захаванне асабісты архіў Я. Шутовіча, які па волі лёсу стаў апошнім дырэктарам Віленскага музея, і займаў гэту пасаду з 1941 г.

аж да свайго арышту органамі НКУС у 1944 г. У 1954 г. ён быў вызвалены, жыў у ссылцы, затым вярнуўся ў Вільнюс. У 1958 г. быў рэабілітаваны, справа ў адносінах да яго была спынена за недаказанасцю віны.

Дакументальная спадчына Я. Шутовіча, сканцэнтраваная ў рукапісным архіве, адлюстроўвае не толькі асноўныя этапы яго творчай, службовай і грамадскай дзейнасці, падзеі асабістага жыцця, але і ўтрымлівае рэдкія дакументы калекцыйнага характару, якія з'яўляюцца каштоўнай інфармацыйнай крыніцай для вывучэння беларускай гісторыі і культуры. Так, у архіве Я. Шутовіча захоўваюцца дакументы, якія маюць дачыненне да дзейнасці Беларускага музея ў Вільне, а таксама якія адкладаліся ім падчас працы дырэктарам у самы складаны перыяд існавання музея. Храналагічныя рамкі дакументаў абмяжоўваюцца 1941–1944 гг. і ўключаюць інструкцыі, статуты, ведамасці, пратаколы, чарнавыя спіскі экспанатаў для выязных экспазіцый і іншыя матэрыялы. Пад кіраўніцтвам Я. Шутовіча, які заступіў на пасаду дырэктара музея ў ліпені 1941 г., ужо ў канцы снежня таго ж года быў падрыхтаваны новы праект асноўнага дакумента музея – яго статут, дзе прыводзілася поўнае найменне ўстановы, вызначаўся яе прававы статус, мэты і задачы, асноўныя напрамкі дзейнасці, правы і абавязкі музейнага персаналу, унутраны распарадак. Асобным пунктам устава зацвярджалася, што кіраўнік і супрацоўнікі музея павінны быць па нацыянальнасці беларусамі альбо мець беларускае грамадзянства, а ўся дакументацыя і канцылярыя павінна была весціся на беларускай мове. Такім чынам музей замацоўваў за сабой статус беларускай культурна-нацыянальнай установы. Дакумент пад назвай «Regularum Biełaruskaha Muzeju im. Ivana Łuskieviča Etnołohičnaha Instytutu Litoŭskaj Akademii Navuk» складаецца з 5 лістоў машынапіснага тэксту на беларускай мове лацінскім шрыфтам і з'яўляецца адным з самых ранніх дакуметаў з архіва Я. Шутовіча, які датычацца дзейнасці Беларускага музея ў Вільні [10, л. 7–11]. Не менш цікавымі з'яўляюцца і іншыя дакументы. Так, напрыклад, для папаўнення музейных калекцый у аддзеле народнай песні, музыкі і харэаграфіі была распрацавана інструкцыя для збіральнікаў беларускіх народных песень, дзе адзначалася, як трэба іх запісваць, «каб ні пашкодзіць і ня паменьшыць вартасці такой прыгожай кветкі, якой з'яўляецца народная песня» [10, л. 41–44]. Прыводзіліся таксама правілы запісаў музыкі. Размножаная на шапірографе інструкцыя высылалася ў сельскую мясцовасць асобам, якія займаліся зборамі беларускага этнаграфічнага і фальклорнага матэрыялу. Сабраныя запісы трэба было адсылаць у музей у аддзел беларускай народнай музыкі і песні, які «…складаўся з вельмі цэнных збораў – запісаў беларускіх этнографаў, меламанаў. У ім – цэлыя сотні гэтых запісаў. Парадкаваў гэты аддзел (тасуючы фінскі метад каталагізацыі), выдатны спецыяліст, кампазітар, граф. Тадэвуш Шэлігоўскі» [8, л. 77], які працаваў у музеі пазаштатным супрацоўнікам з сярэдзіны ліпеня 1941 г. да пачатку ліпеня 1944 г.

У рукапісным фондзе беларускага этнографа, фалькларыста, гісторыка М.Я. Грынблата (1905–1983) захоўваецца каталог архіва беларускіх народных песень Беларускага музея ў Вільні, дзе прыводзяцца прынцыпы каталагізацыі рукапісных і друкаваных калекцый па спосабе картатэкі [17]. Так, акрамя асноўнага каталога з нотнымі запісамі мелодый, былі арганізаваны дапаможныя, якія

ўключалі алфавітныя каталогі запісаў тэкстаў песень, звесткі пра выканаўцаў і збіральнікаў, геаграфічны паказальнік з картай, каталог з дадатковымі звесткамі, якія вызначалі песні як харавыя, літаратурныя (пародыя), вясельныя, выкананыя дзяўчатамі або хлопцамі, і іншымі характарыстыкамі. Па сваёй сутнасці, дакумент з'яўляецца старанна распрацаванай інструкцыяй як па ўпарадкаванні ўжо наяўных калекцый, так і для ўліку і сістэматызацыі запісаў далейшых паступленняў.

Сярод дакументаў архіва захаваўся чарнавік даведкі «Справа памяшкання для Беларускага музея», складзены Я. Шутовічам у 1943 г. [10, л. 14–17]; пералік экспанатаў музея для выстаўкі ў Баранавічах [10, л. 18–20]; спіс супрацоўнікаў музея, якім патрабавалася адтэрміноўка ад мабілізацыі на вайсковую службу [10, л. 21]. У згаданы спіс былі ўключаны Я. Шутовіч, П. Сергіевіч, У. Паўлюкоўскі, дзе акрамя іх кароткіх біяграфічных даных, прыводзіліся аргументы для адтэрміноўкі. Так, напрыклад, зазначана, што Я. Шутовіч – каштоўны спецыяліст па арганізацыі музейнай працы, знаўца гісторыі беларускай культуры і бібліятэчнай справы, бібліёграф; Пётра Сергіевіч характарызуецца як спецыяліст беларускага мастацтва па гісторыка-бытавым жанры і знаўца па кансервацыі музейных экспанатаў. Дадзены спіс датаваны 1 верасня 1944 г. і, хутчэй за ўсё, з'яўляецца адным з апошніх дакументаў, які быў падпісаны Я. Шутовічам як кіраўніком музея, – у лістападзе 1944 г. ён быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў зняволення, тады ж пачаўся і раздзел музея, які і прывёў да яго ліквідацыі.

Нельга не адзначыць наяўнасць у асабістым фондзе Я. Шутовіча каштоўнага ілюстрацыйнага матэрыялу, дзе асаблівую цікавасць выклікаюць адбіткі з клішэ партрэтаў дзеячаў беларускай нацыянальнай культуры, групавых здымкаў членаў беларускіх культурна-асветніцкіх арганізацый, навуковых аб'яднанняў і ўстаноў [11]. Як адзначаў Я. Шутовіч у нарысе, прысвечаным 50-годдзю з дня заснавання музея, «...з аддзелам старых рукапісаў і старадрукаў, а таксама з архівам навейшых матэрыялаў звязаны аддзелы: фатаграфічны і картаграфічны. У фатаграфічным – цэлыя сотні фотакартак, цэлыя альбомы беларускіх дзеячаў, актывістаў, удзельнікаў руху на грунце асветы, культуры, навукі, мастацтва, тэатру, эканомікі, палітыкі, дзяржаўнага будаўніцтва, беларускага войска і т. д. і т. д.» [8, л. 77]. Згаданыя адбіткі ўяўляюць сабой карткі памерам 12×19 см з выявай той ці іншай асобы (альбо групы асоб), на адвароце падаецца назва клішэ і крыніца, адкуль яны ўзяты. Акрамя гэтых звестак, на кожнай картке пазначаны інвентарны нумар з трох лічбаў, якія, па ўсёй верагоднасці, пазначаюць парадкавы запіс у інвентарнай кнізе, нумар і аддзел, дзе захоўваецца арыгінал (апошні прапісаны рымскімі лічбамі). Можна меркаваць, што гэта – фрагмент картатэкі, якая з'яўлялася ўліковым дакументам аднаго з аддзелаў музея, аб гэтым сведчаць і запісы на адвароце асобных картак, дзе зафіксаваны дата выдачы і вяртання дакумента, куды і для якой мэты ён быў выдадзены. Так, напрыклад, клішэ партрэта М. Багдановіча было ўзята ў «Крыніцу» 24 мая і вернута 24 чэрвеня 1927 г., пра што зроблена адзнака ў адпаведнай графе [11, л. 43]. Частка відарысаў уяўляе сабой выразкі з кнігі ўспамінаў А. Луцкевіча, выдадзеных у 1928 г. [6], і беларускіх календароў за 1927–1929 гг. У складзе ілюстрацыйных дакументаў захоўваецца яшчэ адзін комплекс адбіткаў з клішэ ў колькасці

115 картак, якія адрозніваюцца ад вышэйзгаданых перш за ўсё наяўнасцю тлумачальных надпісаў, зробленых Я. Шутовічам [12]. На адваротным баку кожнай карткі, акрамя інвентарнага нумара, у адпаведных раздзелах адзначалася адсутнасць або страта дакумента, загалоўкі раздзелаў надрукаваны на літоўскай мове. Такога роду ўліковыя картатэкі адлюстроўваюць працу супрацоўнікаў музея па ўпарадкаванні наяўнага ілюстацыйнага матэрыяла, яго папаўненні і ўліку.

Будучы не толькі кіраўніком музея ў самы цяжкі і небяспечны перыяд яго існавання, але і сведкам і непасрэдным удзельнікам шматлікіх падзей, перажыўшы разам з музеем і беды і радасці, Я. Шутовіч лічыў сваім абавязкам напісаць змястоўны нарыс пра Віленскі беларускі музей «...і ў ім на аснове дакументальнага матэрыяла прадставіць гісторыю, багацце разнавідных экспанатаў, цяжкія ўмовы існавання і лёс гэтай слаўнай скарбніцы беларускай культурнай спадчыны» [8, л. 1]. Напісанне гэтага грунтоўнага нарыса Я. Шутовіч прымеркаваў да 50-годдзя з дня заснавання музея, але надрукаваным яго аўтар так і не ўбачыў. Толькі ў 1995 г., праз 50 гадоў з часу ліквідацыі музея, у часопісе «Спадчына» былі апублікаваны ўспаміны апошняга дырэктара музея Я. Шутовіча [2]. Шматлікія чарнавыя варыянты згаданага нарыса, аўтарскія заўвагі і праўкі тэксту, а таксама архіўныя выпіскі і запісы захоўваюцца сярод творчых дакументаў яго асабістага фонду.

Акрамя асноўнай часткі дакументальнай спадчыны Я. Шутовіча, атрыманай бібліятэкай у 1974 г. ад яго сястры, праз год, у дадатак да архіва, былі набыты асобныя дакументы, сярод якіх нельга не адзначыць цікавы рукапіс на 10 вузкіх аркушах паперы без даты і без подпісу пад назвай «Беларускі Музей ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні» [13, л. 1–10]. Пасля параўнальнага аналізу подпісу А. Луцкевіча на захаваным квітке Беларускага навуковага таварыства, пісьма за 25 кастрычніка 1938 г., падпісанага «Антон», і тэксту самога дакумента, можна меркаваць, што аўтарства дакумента належыць А. Луцкевічу.

Матэрыялы аб дзейнасці Беларускага музея ў Вільні таксама сабраны ў фондзе «Калекцыя» [14]. На сёння не засталося ніякіх актаў і запісаў ні пра час, ні пра крыніцы іх паступлення. Верагодна, яны ўсё ж належалі Я. Шутовічу і былі набыты ЦНБ НАН Беларусі яшчэ пры яго жыцці. Аб тым, што частку назапашаных матэрыялаў Я. Шутовіч перадаваў у бібліятэку на працягу амаль 10 гадоў сведчыць яго паметка на спісе рукапісных і друкаваных дакументаў аб іх перадачы ў рукапісны аддзел бібліятэкі АН БССР у сакавіку – красавіку 1965 г. [9, л. 36]. Такі часавы прамежак паміж паступленнямі і абумовіў той факт, што дакументы аб дзейнасці музея былі ўключаны ў асобны раздзел фонду разам з матэрыяламі па гісторыі, культуры і літаратуры Заходняй Беларусі. Сярод гэтых дакументаў трэба адзначыць зварот БНТ «Да беларускага грамадзянства і беларускіх установаў у краі і заграніцай» з заклікам да ўсіх працаўнікоў на ніве беларускай культуры, да ўсіх беларускіх культурна-асветніцкіх установаў і да ўсяго беларускага народа ахвяраваць грошы на набыццё або будаўніцтва «Дома беларускай культуры», дзе б размясціўся музей, бібліятэка і архіў. У звароце адзначалася, што ў Вільні, «...у найвялікшым цэнтры нацыянальнага і культурнага жыцця Заходняй Беларусі <...> ніводная беларуская ўстанова не мае свайго ўласнага будынку...» [15, л. 1]. Найгоршае становішча склалася ў Бела-

рускім музеі, архіве і бібліятэцы БНТ, унікальным фондам і экспанатам якіх пагражала знішчэнне. Да таго ж у 1938 г. была спынена невялікая грашовая дапамога музею ад польскіх дзяржаўных улад. «Музей утрымліваўся коштам ахвярнага беларускага грамадзянства і з сяброўскіх узносаў Беларускага навуковага таварыства», – успамінаў Я. Шутовіч [2, с. 34]. Кіраўніцтва БНТ звярталася да рэдакцый усіх беларускіх газет і часопісаў з просьбай надрукаваць згаданую адозву; аб паступленні ахвяраванняў меркавалася даваць інфармацыю ў перыядычным друку. Так, у часопісе «Калоссе» за 1939 г. у рубрыцы «Хроніка» адзначалася, што на ўтрыманне музея паступіла фінансавая дапамога ад К. Душэўскага ў памеры 430 злотых, і яго прыклад «…павінен заахвоціць іншых беларусаў, каторыя маюць магчымасць нешта даць з сваіх заробкаў на гэту важную культурную ўстанову» [3]. Сярод іншых дакументаў у фондзе «Калекцыя» захоўваюцца картатэчныя вопісы карцін і гравюр, рукапісаў і кніг, экспанатаў глінянага і шклянага посуду, паштоўкі з выявамі беларускіх ткацкіх узораў, фотаздымкі экспазіцый музея, уліковыя дакументы грашовых выдаткаў і іншыя матэрыялы, якія патрабуюць больш дэталёвага аналізу.

Архіўныя дакументы аб дзейнасці Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні, што захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў, з'яўляюцца каштоўнай інфармацыйнай крыніцай не толькі для даследавання дзейнасці адной з вядомых навуковых асветніцкіх устаноў у гісторыі Беларусі, але і садзейнічаюць вывучэнню гісторыі беларускага нацыянальна-культурнага руху ў Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гг.

## ЛІТАРАТУРА


1. **Беларускія** пісьменнікі : біябібліягр. слоўн. : у 6 т. / Ін-т літ. імя Я. Купалы АН Беларусі : Беларус. энцыкл. : Нац. навук.-асвет. цэнтр імя Ф. Скарыны. – Мінск : БелЭн, 1992–1995. – Т. 2 : Верабей – Іваноў. – 1993. – 541 с.
2. **З успамінаў** Янкі Шутовіча пра Віленскі беларускі музей / публ. Л. Луцкевіча // Спадчына. – 1995. – № 1 (109). – С. 32–46.
3. **Калоссе.** – Вільня, 1939. – Кн. 1 (18). – С. 62.
4. **Каспяровіч, М.** Віленскі беларускі музей / М. Каспяровіч // Наш край. – 1929. – № 3. – С. 20–26.
5. **Луцкевіч, А.** Беларускі музей імені Івана Луцкевіча / Ант. Луцкевіч. – Вільня, 1933. – 16 с. – (Адб. з «Гадавіка Беларускага навуковага таварыства», кн. 1).
6. **Луцкевіч, А.** За дваццаць пяць гадоў (1903–1928) : успаміны аб працы першых беларус. паліт. арганізацый: Беларус. рэвалюц. грамада, Беларус. сацыяліст. грамада / Ант. Луцкевіч. – Вільня : Беларус. выд. т-ва, 1928. – 52 с.
7. **Памяці** Івана Луцкевіча ў першыя ўгодкі смерці яго (20.VIII.1919–20.VIII.1920). – Вільня : [б. в.], 1920. – 56 с.
8. **Цэнтральная** навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ЦНБ НАН Беларусі). Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў (АРКіР). – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 60.
9. **ЦНБ** НАН Беларусі. АРКіР. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 85.
10. **ЦНБ** НАН Беларусі. АРКіР. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 108.
11. **ЦНБ** НАН Беларусі. АРКіР. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 304.
12. **ЦНБ** НАН Беларусі. АРКіР. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 305.

13. **ЦНБ** НАН Беларусі. АРКіР. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 384.
14. **ЦНБ** НАН Беларусі. АРКіР. – Ф. 23. Воп. 1.
15. **ЦНБ** НАН Беларусі. АРКіР. – Ф. 23. Воп. 1. Адз. зах. 68.
16. **ЦНБ** НАН Беларусі. АРКіР. – Ф. 23. Воп. 1. Адз. зах. 562.
17. **ЦНБ** НАН Беларусі. АРКіР. – Ф. 42. Воп. 1. Адз. зах. 2113.
18. **Энцыклапедыя** гісторыі Беларусі : у 6 т. / рэдкал. : Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелЭн. 1993–2003. – Т. 2. – 1994. – 537 с.

*Дается обзор архивных документов о деятельности известного Белорусского музея им. И. Луцкевича в Вильно, хранящихся в рукописном фонде Центральной научной библиотеки имени Якуба Коласа Национальной академии наук Беларуси.*

*The article provides an overview of archival documents on the activities of the famous Belarusian Museum named after I. Lutskevich in Vilno, stored in the manuscript fund of the Yakub Kolas Central Scientific Library of the National Academy of Sciences of Belarus.*

***Самусік А.Ф.*** *(Мінск)*

## КАНСПЕКТЫ БАЗЫЛЬЯНСКАЙ ВУЧНЁЎСКАЙ МОЛАДЗІ ЯК КРЫНІЦА ПА ГІСТОРЫІ АЙЧЫННАЙ АДУКАЦЫІ XVII–XVIII стст.

Гісторыя айчыннай адукацыі XVII–XVIII стст. дагэтуль маладаследавана і мае шмат так званых «белых плям». У значнай ступені гэта датычыцца арганізацыі працэсу навучання ва ўніяцкай царкве. Кантроль над ім знаходзіўся ў руках базыльянскага ордэна і ўключаў некалькі асноўных ступеней – навіцыяты, семінарыі, студыі, папскія алюмнаты, а таксама калегіі [27, с. 62–64]. Пашырыць уяўленне аб іх дзейнасці і змесце вучэбных праграм дазваляюць менавіта канспекты тутэйшых выхаванцаў, якія дагэтуль так і не сталі прадметам асобнага навуковага інтарэсу. Пры гэтым яны маюць дадатковае значэнне, бо нягледзячы на дзейнасць базыльянскіх друкарань, уніяцкія школы адчувалі недахоп падручнікаў, а кампенсаваўся ён якраз ужываннем настаўнікамі нататак, запісанымі імі ці іх папярэднікамі ў час знаходжання ў розных навучальных установах.

Вучнёўскія сшыткі захоўваюцца зараз у шматлікіх архівах Беларусі, Польшчы, Украіны і Літвы. Так, у бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх у Вільнюсе ў 41-м фондзе «Літоўская праваслаўная кансісторыя» сабраны цэлы комплекс падобных крыніц, якія распавядаюць аб розных аспектах функцыянавання ўніяцкай школьнай справы.

Найбольш старажытныя з іх адносяцца да другой чвэрці XVII ст. Яны сведчаць аб тым, што замежныя адукацыйныя паездкі ў першую чаргу прадугледжвалі вывучэнне вышэйшых навук (філасофіі і багаслоўя), без ведання якіх шлях да ўплывовых царкоўных пасад быў закрыты. Пры гэтым змест курсаў, што слухалі айчынныя ўніяты, нічым не адрозніваўся ад інфармацыі, якая дава-